# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 28 мая 1994 года | № 55 (10755) | Цана 100 руб.




## НАЛЬЮЦЦА ТУГІЯ КАЧАНЫ

Калгас “Беларусь” Чэрвеньскага раёна спецыялізуецца на вырошчванні агародніны. Асабліва вялікая плошча адводзіцца пад капусту — 100 гектараў. Ураджаі тугіх, сакавітых качаноў вырошчваюць багатыя. Бо ёсць у гаспадарцы добра адладжаная тэхналогія, набор палівальнай і іншай тэхнікі, сістэма матэрыяльнай зацікаўленасці людзей у дасягненні лепшых вынікаў. На калгасных землях родзяць агуркі, памідоры, сёлета пасаджана цыбуля. Будуць таксама зялёны гарошак і нават салодкі перац. Насенне іх завезлі ажно з Галандыі, туды ж адправяць частку гарошку.

Даволі значную плошчу займаюць плёначныя цяпліцы. Але большасць іх бяздзейнічае — пакрыццё занадта дарагое. Нацягнулі поліэтыленавую плёнку толькі над тымі, дзе вырошчваюць расаду. Потым высадзяць тут агуркі, таматы. **Дарэчы, жадаючыя могуць набыць у гаспадарцы расаду памідораў, капусты. Нядорага. А вёска Карзуны знаходзіцца побач з Магілёўскай шашой, непадалёку ад Смілавічаў. Тэл. 46-633.** Як сцвярджае старшыня праўлення Аляксандр Васільевіч Чыжык, таматы вельмі добрыя для марынавання і засолкі, а познаспелая капуста хрумсткая і выдатна захоўваецца і ў перапрацаваным, і ў свежым выглядзе.

*На здымках: А.ЧЫЖЫК і агароднінавод Г.ЗАРАНЧУК у цяпліцы; падрыхтоўка расады да вывазу ў поле; высадка расады капусты.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

■ Авторитетно

## ЛОЖНЫЕ СЛУХИ

25 и 26 мая т.г. по области и г.Минску поползли слухи о якобы произошедшем взрыве и выбросе радиоактивных веществ на Игналинской АЭС. Не смолкали телефоны в редакциях газет и штабах гражданской обороны. У всех звонивших на устах один и тот же вопрос: “Что произошло в Игналине?”

Людей успокаивали вразумительные разъяснения специалистов. Никакого взрыва не было и не могло быть, так как атомная станция уже почти месяц не действует в силу ряда причин, и главная из них заключается в том, что появились на какой-то период более дешевые источники электроэнергии и нет необходимости тратить дорогостоящее топливо для АЭС. А беспокойство у людей возникло еще и потому, что штаб гражданской обороны области 23 и 24 мая проводил плановую тренировку в Мядельском районе по защите населения в случае аварии на данной станции.

Еще 16 февраля т.г. комиссия облисполкома по чрезвычайным ситуациям на своем заседании рассмотрела “Концепцию защиты населения при радиационных авариях на АЭС”, утвержденную Советом Министров Республики Беларусь. Штабу ГО области было поручено обеспечить Мядельский район приборами радиационного контроля и наблюдения, спланировать и регулярно проводить тренировки, практические мероприятия по обучению органов управления, сил и населения действиям при осложнении радиационной обстановки. В районе уже проделана определенная работа в этом направлении, проведены занятия с руководящим составом и силами наблюдения и контроля за природной средой. За четыре дня до занятий в районной газете и по местному радио прошла информация о предстоящем проведении тренировки областным штабом ГО. К тренировке были привлечены органы управления района, система наблюдения и контроля, некоторые учреждения здравоохранения, несколько сельских Советов и колхозов. Отрабатывались весьма сложные и необходимые в данном случае учебные вопросы, в основном в теоретическом плане.

Из практических мероприятий велась только радиационная разведка специально созданной и оснащенной приборами группой, в которую были включены представитель общественности и корреспондент газеты “Нарочанская заря”. Группа двигалась по определенному маршруту, проводила измерения гамма-фона, проверяла на выбор продукты питания, брала пробы воды и грунта.

Никаких отклонений от нормативных данных зафиксировано не было.

Подобные тренировки будут проводиться регулярно и в других районах, на предприятиях. Чтобы энергично и грамотно действовать в любой чрезвычайной ситуации, необходимо этому учиться. Опыт ликвидации последствий аварий, катастроф и стихийных бедствий показывает, что с бедой или аномалиями природы справляются быстро и с меньшими потерями там, где к этому готовы органы управления и само население.

*Юрий НИКИФОРОВ, секретарь областной комиссии по чрезвычайным ситуациям.*



■ Эстэтычны ўсенавуч

## ПРЫСТУПКІ ЦУДОЎНАГА

Адбылося сумеснае пасяджэнне калегій упраўленняў культуры і інфармацыі і адукацыі аблвыканкома, на якім абмеркаваны дзейнасць і перспектывы развіцця цэнтраў эстэтычнага выхавання. Першымі эстэтычны ўсенавуч укаранілі ў гарадах Салігорску, Маладзечне, Слуцку, г.п. Мядзель, у Маладзечанскім і Мінскім раёнах. Пазней да іх далучыліся Вілейка, Барысаў, Узда, Стоўбцы і інш.

Адзначалася, што кожны такі цэнтр мае свой аўтарскі падыход да арганізацыі работы, навучальна-выхаваўчага працэсу. Прыярытэт аддаецца нацыянальнай культуры, традыцыям і асаблівасцям данай мясцовасці, а таксама наяўнасці ініцыятыўных, творчых спецыялістаў- прафесіяналаў, якія ўмела далучаюць дзяцей да каштоўнасцей айчыннай і сусветнай культуры. У Маладзечанскім цэнтры праведзена 77 заняткаў каляндарна-абрадавага цыкла. “Майстэрня казак”, “Жывая спадчына”, “Свет кветак і фарбаў” — такія тэмы праграм Салігорскага цэнтра. За два апошнія гады 278 урокаў-канцэртаў праслухалі вучні ў клубе-філармоніі “Музычныя прыступкі” Вілейскага цэнтра, які працуе на базе дзіцячай школы мастацтваў.

Засяроджвалася ўвага на праблемах, якія не спрыяюць творчай дзейнасці такіх фарміраванняў. Гэта — адсутнасць юрыдычных нарматыўных дакументаў, слабая матэрыяльна-тэхнічная база, неадладжанасць сістэмы павышэння кваліфікацыі спецыялістаў.

Вынікі размовы на пасяджэнні калегіі падвялі начальнікі ўпраўленняў аблвыканкома: культуры і інфармацыі — В.К.Гедройц, адукацыі — А.С.Новік.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Палітычны барометр

## НЕ НА ЎСЕ ПЫТАННІ ЁСЦЬ ЯШЧЭ АДКАЗЫ

Кожная ініцыятыўная група сочыць за вынікамі праверкі падпісных лістоў. У прыватнасці, як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў ініцыятыўнай групе З.Пазняка, у Цэнтральную камісію паступілі вынікі праверкі подпісаў па вылучэнню ў кандыдаты на пасаду Прэзідэнта з абласных камісій. Згодна з імі:

А.Дубко — сабрана 146.000; працэнт адбракоўкі — 22,6; засталося — 113.000

| | | | |
|---|---|---|---|
| В.Кебіч | — 410.000; | 7,5; | 364.000 |
| Г.Карпенка | — 109.000; | 20,2; | 86.700 |
| А.Лукашэнка | — 176.000; | 13,6; | 152.000 |
| В.Новікаў | — 199.000; | 9,5; | 180.000 |
| З.Пазняк | — 232.998; | 7,5; | 215.559 |
| С.Шушкевіч | — 130.000; | 6,2; | 122.000 |

Канчатковыя вынікі праверкі падпісных лістоў на іх адпаведнасць форме і патрабаванням Цэнтральная камісія дасць пасля 27 мая.

## ДУМА ЗАКЛІКАЕ ПАДУМАЦЬ

Дума Славянскага сабора “Белая Русь” прыняла зварот да прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду Прэзідэнта В.Кебіча, А.Лукашэнкі, В.Новікава, А.Дубко. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: “Вашы перадвыбарныя платформы супадаюць у галоўным — кожны з вас з’яўляецца прыхільнікам яднання з Расійскай Федэрацыяй і Украінай, раўнапраўя беларускай і рускай моў. Вы выступаеце супраць збліжэння народа... і ператварэння рэспублікі ў каланіяльны прыдатак Захаду”.

У сувязі з гэтым Дума заклікае сесці за стол перагавораў прэтэндэнтаў у кандыдаты і дагаварыцца аб вылучэнні адзінага кандыдата ад народна-патрыятычных сіл.

Як вядома, на маючым адбыцца 4 чэрвеня Другім кангрэсе народа Беларусі, адным з арганізатараў якога з’яўляецца Славянскі сабор “Белая Русь”, чакаецца, што будзе вызначаны адзіны кандыдат на пасаду Прэзідэнта, якога падтрымае Народны рух Беларусі.

*БЕЛІНФАРМ.*

## КААПЕРАТАРЫ ВЫЗНАЧЫЛІ НОВЫЯ ЗАДАЧЫ

Трынаццаты па ліку з’езд спажыўкааперацыі рэспублікі 26 мая завяршыў работу. У Мінску на працягу двух дзён кааператары абмяркоўвалі надзённыя праблемы дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый гэтага жыццёва важнага звяна народнай гаспадаркі і гандлю, якое аб’ядноўвае сёння больш як два мільёны пайшчыкаў.

Як адзначалася ў справаздачным дакладзе і выступленнях дэлегатаў, калектывам спажывецкай кааперацыі пры ўсіх складанасцях у эканоміцы ўсё ж удалося ў пэўнай меры стабілізаваць вострую сітуацыю ў абслугоўванні сельскага насельніцтва. Вызначаючы задачы на будучыню, з’езд пастанавіў удасканальваць работу на сапраўды кааператыўнай, дэмакратычнай аснове, павышаць ролю пайшчыкаў і ўпаўнаважаных, участковых камітэтаў і камісій кааператыўнага кантролю ў кіраванні вытворчай дзейнасцю і арганізацыяй гандлю. Дэлегаты з’езда аднадушна падтрымалі прымаемыя Вярхоўным Саветам і ўрадам рэспублікі меры па развіццю эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі СНД, а таксама падпісанае пагадненне аб аб’яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі.

Перспектыўным і навукова абгрунтаваным дакументам з’яўляюцца зацверджаныя з’ездам “Асноўныя напрамкі развіцця спажывецкай кааперацыі рэспублікі на 1994—1998 гады”. У іх даецца прагноз на будучы перыяд у напрамку развіцця і станаўлення рыначных адносін, структурнай перабудовы эканомікі.

13-м з’ездам спажывецкай кааперацыі рэспублікі ўнесены змяненні і дапаўненні ў статут, зацверджана палажэнне аб рэвізійнай камісіі, выбраны кіруючыя органы. Старшынёй праўлення Беларускага рэспубліканскага саюза спажывецкіх таварыстваў зноў стаў Рыгор Грышчанкоў.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Замалёўка з натуры

## АБАРОТ НААДВАРОТ

Вось прачытаў нядаўна ў вашай газеце, што спажывецкая кааперацыя вобласці ўся ў стратах. То не той абарот, то нікуды не вартая абарачальнасць. Па праўдзе кажучы, я не дужа разумею, што гэта такое. Відаць, каб тавары хутчэй раскупляліся. Дзякаваць богу, я жыў у “застойны час”, дык тое-сёе прыпас. Вопратку буду даношваць яшчэ доўга. Але ж усяго не прыхаваеш. Таму даводзіцца калі-нікалі наведвацца і ў магазін.

Вось і 25 мая падаўся я ў суседнія Палажэвічы: як на тое ліха рыдлёўка зламалася. Варочаўся я варочаўся каля гаспадарчай крамы, што побач з сельсаветам, а яна ўсё на замку. Праўда, маленькім, бліскучым. Тут якраз і машына-будка пад’ехала. На кабіне напісана: “Старадарожскае райпо”. Чакаем разам з шафёрам. Потым прахожы чалавек кажа: “Дарэмна топчацеся, магазін ужо не адкрыецца, да чатырох працуе”.

Гляджу на гадзіннік: яшчэ толькі пачатак чацвёртай. Што рабіць, грады не ўскапаныя, а жонка памідоры збіраецца садзіць. Давядзецца ў суседа пазычаць рыдлёўку. Шафёр райпоўскага грузавіка прапануе зазірнуць у прамтаварны. Гэты магазін цераз сцяну з прадуктовым. Падышоў — зноў замкі на дзвярах. Зноў невялікія. Але на гэты раз адзін з іх зняла магазіншчыца з прадуктовага. Заглянуў я туды, хлеба ўзяў, на дарагую каўбасу грошай у мяне няма, а нейкія салянкі і сокі не варта браць — свае не горшыя. А больш нічога ў магазіне не было. Не, хлушу, запалкі былі.

Пытаюся ў прадаўшчыцы: “Калі суседняя крама адчыніцца?” Не ведаю, адказвае, відаць, загадчыца паехала на адбор.

Што гэта такое — пасаромеўся спытацца. Тут і шафёрнебарака пад’ехаў, патупаў хмурны ля магазіна, а потым даў газу.

Закінуў і я торбу з хлебам за плечы. Адмераў ужо ладны кавалак дарогі, курыць захацелася. Палез у кішэню — запалак няма. Давялося вяртацца. Бацюхны мае, і гэты магазін зачынены. Натоўп людзей усё большае, гудзе. Нехта даводзіць, што прадаўшчыца недалёка адлучылася, бо толькі на ўнутраны замок дзверы зашчоўкнула. Папрасіў я ў знаёмага прыкурыць ды зноў наваструў лыжы дахаты: спяшацца трэба было, хмары збіраліся.

Ішоў і думаў: вось табе тавары, вось табе і абарачальнасць на сваіх двух. Без прыбытку.

*Іван КУХТАЛЕВІЧ. Старадарожскі раён.*

## Зарулюйце да рамонтнікаў

Калі вашы “Жыгулі” або “Масквіч” патрабуюць бягучага рамонту, загляніце ў райаграпрамтэхніку. Тут вам пафарбуюць вашу “тачку”, выканаюць зварачныя работы або зробяць для машыны такія “крылы”, якія не ўступаюць заводскім.

Кіраўнік калектыву М.Мурашка паведаміў, што ў цэхах прадпрыемства сумесна з адной польскай фірмай наладжаны выраб дрэваапрацоўчых станкоў. Для многіх раёнаў вобласці, для фермскіх гаспадарак тут робяць па заказу культыватары рознай шырыні захопу. Да сезона сенаўборкі пачалі выпускаць касілкі ўласнай канструкцыі, якія летась прайшлі выпрабаванне на сенажацях раёна.

Як бачым, хоць і дарагія паслугі рамонтнікаў, а без гэтай службы пакуль што хлебаробу не абысціся.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Выстраданное

## Не стреляйте в белых лебедей

Мне приснился страшный сон. И, вскочив в поту и ужасе, я долго не могла уснуть. Память услужливо сохранила все детали: высокий, здоровенный громила в черном кожаном пальто целился из пистолета в белого лебедя. А мы, дети, охваченные ужасом, бросились наперерез смерти. Но не успели. Прозвучал роковой выстрел. Гладь маленького озерца обагрилась кровью. И долго еще на воде плавали белые невесомые перышки...

Я вновь в воспоминаниях лечу в детство. Нечто подобное уже было. Тогда нас, деревенских детей, учительница привезла в столицу, в Ботанический сад. Помню, канючили: что мы, цветов, деревьев в деревне не видели? Но когда вошли на этот островок природы, то поразились. Это были райские кущи, где переливалась, сверкала всеми цветами радуги первозданная природа во всем своем великолепии. Но больше всего нас поразили лебеди: царственные, гордые, прекрасные птицы, не обращавшие на нас никакого внимания. Мы так увлеклись этим зрелищем, что забыли обо всем. Но тут тишину нарушил громкий смех. Великовозрастный детина собирался бросить в лебедя, подплывшего близко к берегу, камень. Учительница подошла к нему, сделала замечание. Тот в ответ лишь зло рассмеялся. Тогда мы, дети, в одном порыве бросились вперед и образовали защитную стенку на пути зла. И парень отступил перед десятком вдруг ставших не детскими, взглядов.

Сегодня я бегу в детство. Бросаю в окошечко 500 рублей, хватаю билет и несусь во всю прыть туда, куда вернул меня сон. Мимо засохших виноградников, ирги, боярышников, по темной, словно обугленной аллее с указателем направления — белым лебедем.

Ленивые, разогревшиеся на солнышке люди с удивлением смотрят мне вслед, а я несусь туда, где тогда, в детстве, чуть не произошла трагедия. Неужто их нет, неужто все продано, отдано на растерзание, вывезено? Мне кажется, что сердце вот-вот выпрыгнет из груди в ожидании потрясения.

Вот и то озерцо в Ботаническом саду, с маленьким сказочным домиком посередине. Вокруг скамейки с редкими прохожими. Их нет, этого белого чуда, и сердце наполняется отчаянием и обреченностью. Медленно иду дальше. Серые утки бороздят водную гладь. Но что это? Что-то блеснуло в густой траве. Да это же они, два лебедя, мирно щиплющие сочную зелень. Рядом сидела молодая пара, не обращая никакого внимания на лебедей. Парень показывал девушке украшения, и та повизгивала от восторга. Как-то сразу пришло умиротворение. Я глядела и не могла наглядеться на этих царственных птиц. И вдруг краски природы стали ярче, колоритнее, нежнее, словно все в этой жизни возвращалось на круги своя.

Все — да не все. Постарел, изменился Ботанический сад — гордость наша. Нет уже прежнего буйства красок. Клумбы украшают лишь тюльпаны да некоторые разновидности цветов. То тут, то там — высохшие деревья. А вокруг в наступление идут одуванчик с осотом и пыреем. Одинокий солдат точит косу, собираясь идти в бой с сорняками. Но их так много, что вряд ли ему справиться. Выглянул из зарослей еще один помощник, но ретировался обратно: один в поле не воин.

Что скрывать, наша гордость, наша отрада — Центральный ботанический сад болен. Почти все государственные дотации исчерпаны. О новых ничего не известно. Работают здесь люди на чистом энтузиазме. Ушли в прошлое выставки цветов, награды за участие в престижных мероприятиях.

В борьбе за хлеб насущный, в политических дебатах мы забыли главную заповедь: пришло время обустраивать землю, заботиться и холить ее. Что мы оставим потомкам? Дымящие трубы, ларьки с заморскими некачественными товарами и... противогазы для детей. Смертельно раненная нами природа ждет нашего участия, заботы, сострадания. Много лет назад Л.Толстой сказал: “Счастье — это быть с природой, видеть ее, говорить с ней”. А это М.Пришвин: “Охранять природу — значит охранять Родину”. Как мы могли забыть это!

*Ирина АНДРЕЕВА.*

## ФІРМЕННЫ МАГАЗІН

гэтымі днямі гасцінна расчыніў дзверы перад пакупнікамі ў мікрараёне-1 г.Заслаўя.

А “прыдумала” фірменны гандаль у старым гастраноме кіраўніцтва міжгаспадарчага вытворчага аб’яднання па птушкагадоўлі і Заслаўскага гарвыканкома.

Мясную прадукцыю птушкафабрыкі імя Крупскай /намаганнямі якой быў пераабсталяваны колішні гастраном/, а таксама іншых прадпрыемстваў МВА па птушкагадоўлі заслаўчане набываюць з учарашняга дня.

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

